агню' (астрав., брэсц., там жа), 'ручнік для посуду' (докш., там жа), *тря́пка* 'тс' (клім., там жа), *трапкі́* 'ніцяныя канцы ў ручніку' (Бяльк.), *тра́пачка* 'скурат, вузкая палоска аўчыны, якая служыць пракладкай для сшывання аўчын' (Ян.), сюды ж *трапка́ценькі* 'растрапаны, растапыраны ў розныя бакі' (гарад., Сл. ПЗБ). Укр. *тря́пка* 'ануча', 'вехцік', 'рыззё', *стра́пки* 'лахманы', рус. *тря́пка* 'ануча', *тря́пка* 'махры', дыял. (паўн.) *трепки́* 'анучы, старызна, лахманы', стараж.-рус. *тряпъка*, польск. *strzepa*, *strzępki* 'махры', 'абрыўкі', 'анучы, лахманы', *strząpie* 'абрэзкі, акраўкі, скураты', *strzępić się* 'абтрэпвацца', *strzępić* 'размачальваць, раскудзельваць', н.-луж. *tśepliś* 'тс', *tśumpliś se* 'растрэпвацца', *tśepjel* 'пэндзаль', чэш. *střepiti* 'тс', *střep* 'старызна, хлам', *střapec*, *třapec* 'махры', 'пэндзаль', *střapatý* 'калматы, кудлаты', *třepit* 'калмаціць', славац. *strap* 'шкумат, пасма', *strapec*, *strapce* 'махры', 'акраўкі, рыззё', 'гронка вінаграду', 'мяцёлка (від суквецця раслін)', балг. *тре́пки* 'вейкі; упрыгожанне з вісячых дробных манетак'. Мяркуецца, што назалізацыя тут экспрэсіўная, а варыянтнасць пачатку слова звязана з т. зв. рухомым *s*-; параўноўваюць з *трапа́ць*$_1$, гл. (Фасмер, 4, 113; Чарных, 2, 267–268; Абаеў, Зб. Баркоўскаму, 12; Новое в рус. этим., 240–241; ЕСУМ, 5, 664). Дапускаецца роднаснасць са ст.-грэч. ῥῶπος 'дробязь; цацка, бразготка' і выводзіцца прасл. **strapъ* (Махэк$_2$, 585). Гл. таксама *страпкі*, *стрэпкі* і наступнае слова.

**Трапка́ч** 'махры ў ручніку' (Доўн.-Зап., Пін.), 'канцы асновы (пасля датыкання кроснаў)' (рагач., ЛА, 4), 'ніткі, адрэзаныя ад кроснаў пасля выткання палатна' (бярэз., Жд. 1), 'трапкач, ручнік з доўгімі недатканымі канцамі' (ТСБМ, Шат., Мат. Гом., Некр., Уладз., Мат. Маг., ТС; бых., Янк. Мат.; паўн.-зах.-бел., Сл. ПЗБ), 'ручнік, у якім насілі гаршкі ў поле' (Касп.), *трэпка́ч* 'тс' (івац., Нар. сл.; ТС, ПСл), 'ануча' (Сл. Брэс., Доўн.-Зап., Пін.), 'ануча, якой бяруць гаршкі, чыгуны' (Мат. Маг.; ветк., ельск., ЛА, 4), *страпка́ч* 'тс' (стол., там жа), 'невялікі льняны ручнік' (пін., Сл. Брэс.), *тръпка́ч* 'канцы асновы', *тропка́ч*, *страпка́ч* 'тс' (круп., ганц., калінк., ЛА, 4), *трэпка́ч* 'рэшта палатнянай асновы' (Мат. Гом.), *трапкачы́* 'махры ў палатне' (Сцяшк. Сл., Ян.), *трапкачэ́* 'махры вакол хусткі' (гродз., ЛА, 4). Вытворныя ад *трапаць* (гл.), узыходзяць да прасл. **(s)trap-* > **(s)trapъk-ъ* (гл. *страпкі*, *стрэпкі*) і суф. **-ačь*; паводле Борыся (Czak. stud., 84), утвораны непасрэдна ад *трапкі* 'махры', гл. папярэдняе слова.

Даведачнае выданне

# ЭТЫМАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

**Том 13**

**С – Т**

Укладальнікі:

**Абрагімовіч** Марына Яўгенаўна
**Лучыц-Федарэц** Іван Іванавіч
**Малько** Раіса Мікалаеўна
**Цыхун** Генадзь Апанасавіч

Рэдактар *Т. А. Гарбачэўская*
Мастак *А. А. Кулажэнка*
Мастацкі рэдактар *В. А. Жахавец*
Тэхнічны рэдактар *М. В. Савіцкая*
Камп'ютарная вёрстка *Л. І. Кудзерка*

Падпісана да друку 11.11.2010. Фармат 60×90[1]/16. Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 22,0. Ул.-выд. арк. 22,0. Тыраж 600 экз. Заказ 3415.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецкі дом «Беларуская навука».
ЛИ № 02330/0494405 ад 27.03.2009. Вул. Ф. Скарыны, 40, 220141, г. Мінск.

Філіял № 1 АТТ «Чырвоная зорка». ЛП № 02330/0494160 ад 03.04.2009.
Вул. Савецкая, 80, 2225409, г. Баранавічы.

ISBN 978-985-08-1185-1

